


# DISTRICTUS ПАВЕТ



ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 1 (38) СТУДЗЕНЬ 2005 г.

***Тэма гэтага нумару – землякі. Землякі – гэта ўраджэнцы адной з якіх-небудзь мясцовасцей. Колькі іх, ураджэнцаў Браслаўшчыны разышлося, ра'ехалася па беламу свету? З даўніх часоў – дзесяткі тысяч. Некаторыя з іх сталі вядомымі дзеячамі ў розных краінах. Часам здараецца, што знакамітыя землякі губляюць сувязь з роднай зямлёй і не дзіва, што ў такіх выпадках выпадаюць з гістарычнай палітры рэгіёна. Адзін з кірункаў краязнаўчай працы – пошук ураджэнцаў свайго краю з цікавым жыццёвым лёсам, знакамітых землякоў. На гэтым шляху даследчыкаў чакаюць цікавыя знаходкі і адкрыцці. Часам яны адбываюцца выпадкова, а часам у выніку карпатлівых пошукаў.***





Усе мы ўраджэнцы тае Браслаўшчыны. Селянін з-пад Браслава

Не за гарамі, не за марамі –
Тут няспешна ткуцца вякі.
Небам зораныя, працай зморанныя
Скрозь жывуць мае землякі.

Валатовачкі, як начовачкі,
Іх калышуць праз час і лёс.
Палясовачкі, верасовачкі
Не хаваюць ні смеху, ні слёз.

Здабываецца і збываецца
Ўсё, што з іхняга мазаля.
Спелым коласам налiваецца
І вітаецца з імі зямля.

# АЛЬТЭР ДРУЯНАЎ

*"Самы дасціпны яўрэй ва ўсім свеце жыў у Дзвінску" – напісала Даўгаўпілская "Наша газета"(№95.2004 г.). Мы можам дадаць з гонарам – а нарадзіўся ён на Браслаўшчыне.*



Гаворка ідзе пра Альтэра Друянава (1870 – 1938 гг.), збіральніка яўрэйскага фальклору, пісьменніка, перакладчыка. Нарадзіўся ён, як няцяжка здагадацца, у Друі, тагачасным заштатным горадзе Віленскай губерні. І бацька, і дзед яго былі рабінамі. Выдатную адукацыю атрымаў у горадзе Брэслаў (у той час гэта нямецкі ўніверсітэцкі горад, а цяпер – польскі Вроцлаў). Пасля навучання вяртаецца ў Расійскую імперыю, спрабуе займацца літаратурнай працай. Спачатку жыў у Друі. Адсюль пісаў лісты да класікаў рускай літаратуры. Напрыклад, атрымаў дазвол ад Льва Талстога перакласці на старажытнаяўрэйскую мову (іўрыт) некаторыя яго творы. У лісце ад 9 лютага 1896 года прасіў дазволу на пераклад у Уладзіміра Караленкі. Потым А.Друянаў перабіраецца ў больш салідны горад Дзвінск (сучасны Даўгаўпілс). Тут, у Дзвінску, друкуе гумарыстычныя творы, піша апавяданні, займаецца крытыкай. Напрыклад, у часопісе "Восток и Запад" быў надрукаваны артыкул А.Друянава аб творчасці Л.Талстога. У Дзвінску А.Друянаў ажаніўся на Брахай Гальперынай, дачкой вядомага камерсанта. Спрабаваў, каб забяспечыць сям'ю, займацца камерцыяй, але сваё прызванне бачыў у літаратурнай дзейнасці. Прычым усё болей і болей А.Друянава захапліваў яўрэйскі фальклор. Ён нястомна збіраў показкі (анекдоты) і жарты з яўрэйскага жыцця. 3170 твораў было ўключана ў трохтомную кнігу – самы поўны збор народнага гумару ўсходнеславянскіх яўрэяў. Казалі, што А.Друянаў ведаў усе гэтыя творы на памяць. Гэта праца лічыцца галоўнай творчай справай літаратара. Першае выданне яе выйшла ў 1922 г., а пазней неаднойчы перавыдавалася. Сучасныя гумарысты і сатырыкі Ізраіля вельмі часта звяртаюцца да працы А.Друянава. Падчас вайны ў Персідскім заліве яго кніга была самай папулярнай у тых ізраільцян, якія праводзілі час у бомбасховішчах.

Пасля таго, як згарэў гандлёвы дом Друянава ў Дзвінску, ён перабіраецца ў Адэсу. Тут становіцца сакратаром Камітэта па засяленню Палесціны, на нейкі час выязджаў да яўрэйскіх перасяленцаў. Пасля вяртання з Палесціны жыў у Вільні, дзе рэдагаваў сіяніцкі часопіс "Ха-Олам" ("Свет"), затым з часопісам перабраўся ў Адэсу. У 1915 г. А.Друянаў пачаў пісаць фундаментальную працу "Запіскі з гісторыі засялення Палесціны". Першы том выйшаў у свет у Расіі ў 1919 г., а два другіх – у Ізраілі. Каштоўная праца ўключала больш за 1,5 тыс. разнастайных дакументаў. У 1921 годзе сям'я А.Друянава канчаткова высхала на землі будучай дзяржавы Ізраіля. Галава сям'і працягвае літаратурную працу, але і не толькі. У 1935 г. ён быў вядомы як дырэктар банка "Халаваб ві-хісахон". У гэты ж час вядомасць атрымала гісторыя, звязаная з любімым сабачкам літаратара – Бубкам. Бубка вельмі любіў музыку, пры яе гуках мог доўга сядзець і не варушыцца. Сябар А.Друянава М.Галінкін, арганізатар першай ізраільскай оперы, забяспечыў Бубку і яго гаспадара пастаяннымі крэсламі. Гэта крэсла засталося за Бубкай нават тады, калі оперу наведаў ганаровы госць – англійскі вярхоўны камісар са світай.

28 лістапада 1938 года А.Друянаў, які доўгія гады пакутаваў з-за хворага сэрца, памёр. Сучаснік згадвае: "Калі яго не стала, то нас усіх апанаваў страх і жах: мы хавалі не проста добрага і дарагога чалавека, мы хавалі ўсмешку".

## Показкі ад А.Друянава

Піша адзін дзвінец ліст. Вельмі вялікімі літарамі. Сусед дзівіцца:

– Навошта такія велізарныя літары?

– Пішу я дзядзьку, а ён, каб нас мінула, трохі глухаваты.

* * *

Гаспадыня адправіла Бэню за запалкамі ў лаўку. Прыносіць ён запалкі. Гаспадыня спрабуе запаліць адну, другую, трэцюю – не запальваюцца.

– Я ж табе казала паспрабаваць запалкі, перад тым як набываць.

– Дык я ж і спрабаваў. Кожную. І ўсе запальваліся.

* * *

Знайшлі на вуліцы нябожчыка. Рабін загадаў абвясціць усім, каб прыходзілі распазнаць мерцвяка. Прыходзіць адна бабулька, галосіць:

– Рабе, нябожчык – мой муж.

– Якія ж прыкметы вы можаце нам паведаміць?

– Ну, як жа, рабе, ён быў заікам.

– Хіба ж гэта прыкмета? – сказаў разважліва рабін. – Ці ж мала заікаў на свеце?



**Аўтарская ілюстрацыя да зборніка показак**

Кожны мастак абавязкова павінен хаця б аднойчы пабываць у Парыжы – кажа адно прыслоўе. Наш зямляк Мікола Паўлоўскі з 1979 года жыве і працуе ў сусветнай сталіцы мастацтва.

# МІКОЛА ПАЎЛОЎСКІ. Наш чалавек у Парыжы



**Аўтапартрэт. 1990**

Мікола Паўлоўскі нарадзіўся ў Друі. Вучыўся ў мясцовай школе. У школьным архіве настаўнік Міхаіл Ставіцкі знайшоў некалькі прац будучага мастака, выкананых у 1966 годзе – гэта пейзажы наваколля Друі. З Друі М.Паулоўскі з'ехаў у Мінск, каб паступіць у мастацкае вучылішча, а ў 1979 г. застаўся ў Парыжы – адстаў ад сваёй турыстычнай групы. З пункту гледжання тагачасных улад невяртанне на Радзіму расцэньвалася як злачынства. Бацькоў М.Паўлоўскага ў Друі наведалі супрацоўнікі КДБ. Сам жа Мікола хацеў аднаго – свабоды творчасці. Мастак тлумачыць: "*...Я з'ехаў не толькі з Мінска ў Парыж. Раней я з'ехаў з Друі ў Мінск. І такое ж пытанне можам задаць любому мастаку. Чаму ён з'ехаў са свайго гарадка, свайго пасёлка ў іншы горад – з больш развітой культурай, з большай колькасцю мастакоў, у больш спрыяльнае асяроддзе. У пэўным сэнсе гэта адна і тая ж лінія: Друя, дзе я нарадзіўся, – Мінск – Парыж. Мог быць Берлін ці Нью-Йорк, бо тое, што было ў Мінску, мяне не задавальняла. Я адчуваў сябе белай варонай, а хацеў быць у такіх абставінах, дзе я такі, як усе*".

У Парыж прыязджала шмат эмігрантаў – мастакоў з СССР. М.Паўлоўскі выкарыстаў дапамогу Талстоўскага фонду, што дазваляла знайсці пражыванне, вучыць французскую мову, шукаць працу. Праз год мастак ужо змог зарабляць на жыццё сваімі творамі. Даволі хутка М.Паўлоўскі развітаўся з савецкім эміграцыйным асяроддзем і стаў самастойна шукаць сваё месца ў мастацкім жыцці Парыжа. Жыў з групай мастакоў у пакінутым гаспадарамі доме, дзе не трэба было плаціць за арэнду, электрычнасць, за студыю. Там была велізарная выставачная зала. Вельмі добра авалодаў французскай мовай, неўзабаве па-французску стаў пісаць тэарэтычныя і біяграфічныя нататкі.

Каб выжыць у Парыжы, мастаку трэба было шмат працаваць. М.Паўлоўскі прызнаецца: "*Вольнага часу ў мяне ніколі не было. Я працую і раней працаваў ад святла да цямна*". Але працуецца ў Парыжы лёгка, сказваецца яго своеасаблівая атмасфера, аўра. Пэўны час мастак жыў з іншымі калегамі своеасаблівай камунай. У гэтай групе, праз якую прайшло каля двух соцень мастакоў ( з Аўстрыі, Турцыі, Галандыі, Канады, Гаіці, ЗША, СССР), Мікола Паўлоўскі зваўся нават прэзідэнтам. Камуна арганізоўвала агульныя выставы, удзельнічала ў калектыўных праектах. Потым М.Паўлоўскі стаў аддаваць перавагу самастойнаму жыццю і творчасці.

Пасля ад'езду ў Парыж у мастака не парвалася духоўная сувязь з Беларуссю. Нацыянальныя матывы можна знайсці і ў яго мастацкіх творах і ў тэарэтычных разважаннях. М.Паўлоўскі кантактуе з беларускім святаром з Лондана Аляксандрам Надсанам, які клапоціцца пра музей і бібліятэку Францішка Скарыны. Мастак быў знаёмы з біскупам Чэславам Сіповічам, стваральнікам гэтага беларускага асяродка. Дарэчы, Ч.Сіповіч – зямляк М.Паўлоўскага – родам з-пад Друі (сучасная Мёршчына). Ведае М.Паўлоўскі і беларускага мастака, які стала жыве ў Парыжы, Віктара Жаўняровіча, таксама ўраджэнца друйскіх ваколіц. В.Жаўняровіч са сваімі калегамі і аднадумцамі вельмі актыўна займаліся беларускімі справамі.

М.Паўлоўскі цікавіцца творчасцю М.Багдановіча, нават займаўся даследаваннямі яго паэтыкі. У 1994 годзе мастак наведаў Мінск, сустрэўся з калегамі, абмяркоўваў шматлікія ідэі наконт беларуска-французскага мастацкага супрацоўніцтва.

Але зноў жа – галоўнае творчасць. Мастак плённа працуе (яго напрамак – абстрактнае мастацтва), выстаўляецца ( у тым ліку прымаў удзел у прэстыжнай выставе "Выява будучыні" у цэнтры Пампіду ў 1982 годзе). Яго творчасць грунтуецца на паглыбленні ў свой уласны свет і перадачы свайго свету праз працы. "Я ўсё больш заглыбляюся ў сябе – і гэта ёсць мая праца," - кажа М.Паўлоўскі. Хацелася б верыць, што ва ўнутраным свеце парыжскага беларускага мастака зберагаецца і цасцінка яго малой радзімы.



**Сакавік. Вясна на Заходняй Дзвіне. 1966. Друя.**

*Паводле матэрыялаў часопіса "Мастацтва",№1,1994 г.*

*Удзячнасць Міхаілу Ставіцкаму за дапамогу ў падрыхтоўцы гэтай публікацыі.*

# З гісторыі сядзібы ў Ідолта

**Вітаўт Ермалёнак**

Прыгожыя мясціны вакол Мілашоўскага возера. Здаўна, яшчэ ў каменым веку тут пачалі сяліцца людзі. Але найбольшую слыннасць гэтай мясцовасці прынеслі іх уладальнікі: славутыя роды Сапегаў і Мілашаў. Менавіта з роду Мілашаў паходзіць вядомы французскі паэт Аскар Мілаш і паэт, публіцыст, празаік, перакладчык, лаўрэат Нобелеўскай прэміі – Чэслаў Мілаш. Да гэтага часу вабяць сваёй прыгажосцю цудоўныя помнікі архітэктуры: сядзіба і капліца ў Ідолта, касцёл у Мілашова.

Ідолта ўпершыню згадваецца ў дакументах XVI ст., як уладанне Радамінаў-Дусяцкіх, потым Сапегаў, у 1667 годзе належыла Штоку. Наогул, маёнтак Ідолта часта выступае ў гістарычных крыніцах пад назвай Дуброва, што ўскладняе прыналежнасць маёнтка. Дакладна вядома, што з 1725 па 1824 год гэтай мясцовасцю валодалі Сапегі. Яны не мелі ў Ідолта сваёй сядзібы, таму што іх асноўная вотчына была Друя, дзе яны, пачынаючы з XVI ст., мелі замак. Падчас далучэння нашага краю да Расійскай імперыі ўся шляхта павінна была прысягнуць на вернасць расійскай імператрыцы Кацярыне II пад пагрозай секвестра (канфіскацыі) маёнтка. Толькі Сапегі, як і іншыя магнаты, адмовіліся здрадзіць сваёй краіне. З дапамогай упраўляючага ўсімі сапежынскімі маёнткамі Нітаслаўскага, Друйскі і Чэрэйскія ключы былі амаль за бясцэнак прададзены Іосіфу Мілашу, абы толькі не дасталіся расійскім дваранам. Усяго Нітаслаўскаму і Мілашу дасталося па 25 тысяч дзесяцін зямлі на Віленшчыне і Магілёўшчыне. Сам генерал Францішак Сапега прыняў аўстрыйскае грамадзянства і застаўся жыць у Галіцыі. Аб гэтых падзеях цікава апавядае Чэслаў Мілаш у сваёй кнізе «Пошук Айчыны». Асноўную інфармацыю перадае сябра Мілашаў Зыгмунд Гуз, які быў уладальнікам двара Канстанцыянава, ля Друі. Сам Гуз паходзіў з французскага роду, напэўна, з салдат арміі Напалеона. Іосіф Мілаш патрапіў на службу да Сапегі з Ковеншчыны. Але прозвішча Мілашаў згадваецца ў Браслаўскім павеце яшчэ ў XVI ст. Ды і назва вёскі Мілашова вядомая па дакументах з 1567 года, зразумела, што паходзіць ад прозвішча Мілаш.



Падчас «разбору шляхты», гэта значыць пацвярджэння шляхтай свайго шляхецкага паходжання, Іосіф Мілаш падаў дакументы ў геральдычную камісію пры Сенаце. З іх вядома, што Мілашы карысталіся дваранскім званнем са старажытных часоў. У прашэнні пералічваліся наступныя пакаленні гэтай сям'і з XVI ст.: 1) Рыгор, 2) Урбан, 3) Ян, 4) Міхаіл, 5) Казімір, 6) Андрэй, які меў чатырох сыноў: Юрыя, Адама, Казіміра, Сямёна. Ад Юрыя паходзяць: Яцэк, Тадэуш, Казімір, Стэфан, Іосіф. У Казіміра было чатыры сыны: Яцэк – гусарскі ротмістр у адстаўцы, Міхаіл – падпалкоўнік, Антоній і Юрый, памершыя ў дзяцінстве, Іосіф – менавіта ён выкупіў у Сапегі Друю і Чэрэю. У яго было два сыны: Адам (Генрык, Казімір) і Яўген (Эдуард, Артур). Менавіта Артур Мілаш быў дзедам французскага пісьменніка Аскара Мілаша. Ён быў афіцэрам уланскага палка, удзельнічаў у паўстанні 1831 г. Падчас бітвы яго цяжка параніла – гарматным ядром адарвала нагу. Пасля ён ажаніўся з чароўнай прыгажосці спявачкай оперы Ла-Скала Наталляй Таостра. Бацька паэта Уладзіслаў Мілаш нарадзіўся ў 1838 годзе ў Вільні, дзе стала пражывалі Артур і Наталля, у Чарэі больш гаспадарылі ўпраўляючыя. Але сам паэт нарадзіўся ў 1878 г. ў Чарэі.

Сын Іосіфа Мілаша Яўген (Эўгеніюш) быў жанаты на Эміліі з роду Таргоньскіх. Яны мелі тры дачкі і двух сыноў – Іосіфа і Эўгеніюша. Трое дзяцей памерла яшчэ ў дзяцінстве. Да гэтай пары на паўвостраве захаваліся побач з капліцай іх каменныя надгробкі з жалезнымі крыжамі. На адным з іх чытаецца надпіс: "Конрад Мілаш 19.02.1849 – 13.04.1852". Сыны атрымалі выдатную адукацыю: спачатку вучыліся ў езуіцкім калегіуме ў Мецы, потым ва французскіх універсітэтах. Як і бацька, яны выдатна валодалі шэрагам еўрапейскіх моў. Пакуль дзеці атрымлівалі адукацыю, Яўген Мілаш праводзіў актыўную гаспадарчую дзейнасць, адбудаваў замак у Друі. У 1862 г. на яго грошы была пабудавана капліца, дзе вечны спачын знайшла яго жонка. Гэта невялікі прамавугольны ў плане будынак прыгожа ўзносіўся на паўвостраве Мілашоўскага возера. Узнёсласць і адначасова строгасць ствараюць выступаючыя квадратныя калоны, круглае акно над уваходам, узорная стужка трыгліфаў акружае франтон капліцы. Двухсхільны дах з трохкутным франтонам завяршаецца квадратнай драўлянай вежай званіцай. Капліца з'яўляецца тыповым помнікам позняга класіцызму. Ад сядзібы дарога была высаджана ліпамі, частка якіх ацалела да сёняшняга дня, таму мясцовыя жыхары называюць гэта месца ліпняком.

У гэтыя ж гады Мілаш вёў працы па пабудове ў Ідолце сядзібнага дома. За кароткі тэрмін быў пабудаваны велічны выцягнуты з поўдня на поўнач двухпавярховы будынак. Пад домам знаходзіліся магутныя сутарэнні для захоўвання харчовых запасаў. У скляпеннях месцілася студня з крынічнай вадой, якая захавалася да сённяшняга дня. Над уваходам узвышалася вялікая мансарда з балконам, які ўтрымліваўся на чатырох квадратных калонах. Сядзібны дом быў пабудава-ны на дастаткова нізкім месцы, таму для асушэння наваколь-ных зямель былі выкапаны каналы са шлюзамі, якія рэгуля-валі ўзровень вады, якая сцякала ў Мілашоўскае возера. У гэты ж час быў закладзены парк пейзажнага тыпу, дзе раслі ліпы, клёны, каштаны і іншыя дрэвы. У парку размяшчалася некалькі сажалак. Існуе паданне, што ў адной з іх патануў маленькі сын Мілаша – Эдуард, таму бацька загадаў насыпаць агледальны пагорак на сажалцы ў выглядзе крыжа. Да сёняшняга дня захаваліся і велічныя гаспадарчыя пабудовы, зробленыя з цэглы і камення. Іх адметнасць разынкавая муроўка (маленькія каменьчыкі ў белай тынкоўцы), што прыдае гаспадарчым будынкам гарэзлівы выгляд. Частка будынкаў страчана, у тым ліку мураваная лядоўня, ад якой захаваліся велічныя руіны. Яўген Мілаш выдзеліў лес для пабудовы ў Мілашове народнага вучылішча, якое было ўрачыста адчынена 1 красавіка 1873 года. Вось як адзначае дзейнасць Мілаша ў сваёй працы Зыгмунт Гуз, дасланай Нобелеўскаму лаўрэату Чэславу Мілашу: «Быў гэта чалавек сціплы, працавіты. Заставіў пасля сябе найлепшыя ўспаміны сярод мясцовага люду. Сялян сваіх шанаваў, ніколі з імі спрэчак не меў. Дзякуючы яго гаспадарлівасці, сяляне мілашоўскай воласці былі багацейшыя ад іншых. Унукі тых сялян скончылі не толькі сярэднюю школу, але і вучыліся ў вышэйшых

школах. Між імі былі святары, ксяндзы, урачы, вайскоўцы. Многія з іх загінулі падчас сусветных войнаў, загінулы на Салаўках, або ў Катыні падчас сталінскіх рэпрэсій». Мы нагадаем імёны толькі некаторых з іх: Язэп Малецкі, доктар, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху; Яўген Аніська – настаўнік, удзельнік вызваленчага руху ў даваеннай Польшчы; генерал Чырвонай Арміі Садоўскі; святары К.Смулька, Гайлевіч і шмат іншых.

Здараліся з Яўгеніюшам Мілашам і розныя кур'ёзы. Так, аднойчы ён паехаў на паляванне і, напэўна выпадкова зачыніў у склепе жонку. Толькі праз некалькі дзён узгадаў, што зрабіў.

Але вернемся да нашчадкаў Яўгена Мілаша. Малодшы сын Эўгеніюш пасля вучобы ў Францыі закончыў акадэмію вайсковага права ў Пецярбургу, стаў ваенным пракурорам. Але калі для далейшай кар'еры трэба было змяніць каталіцкае веравызнанне, хоць калі не на праваслаўнае, то на лютэранскае, адмовіўся і вярнуўся на радзіму, атрымаўшы ў спадчыну друйскую вотчыну. Ён жыў адзінока, ні з кім, акрамя сястры, ніякіх адносін не падтрымліваў. Толькі калі перастала ў замку іграць фартэпіяна, даведаліся людзі, што нешта здарылася. Сапраўды, ён ужо быў пры смерці, але паспеў развітацца з блізкімі, папрасіць прабачэння ў ксяндзоў, хоць быў глыбока веруючы, але ў касцёл і да споведзі не хадзіў. Эўгеніюш памёр ў 1908 годзе, а сваю маёмасць завяшчаў пляменікам Адаму і Эміліі. Пахаваны ў радавой капліцы Мілашаў у Ідолце.

Старэйшы яго брат Іосіф пасля вучобы таксама звязаў свой лёс з войскам – даслужыўся да ротмістра уланскага палка імператарскай гвардыі ў Пецярбургу. Калі выйшаў у адстаўку, ужо пасля смерці бацькі, заняўся гаспадаркай. Але гэтая дзейнасць не прынесла яму плёну. Пабудаваная ў фальварку Стайкі гарбарня збанкрутавала не вытрымаўшы канкурэнцыі. Трэба было шмат заплаціць па крэдытах. Не дапамагла тут нават спадчына, што засталася пасля смерці цётак (маёнтак Лукомаль). Яго дачка Эмілія прадала асноўныя ўладанні Мілашаў – Друю, Лукомаль. Ідолта была ў 1909 г. прададзена Свідэрскім.

Цікавыя ўспаміны захаваліся аб малодшай сястры братоў Эўгеніюша і Іосіфа – Ядвізе. Яна была найбольш улюбёнай дачкой. Менавіта ёй бацька апісаў у пасаг Ідолту. Выйшаўшы замуж за нейкага Іжыцкага, яна адразу пасля першай шлюбнай ночы загадала адвезці жаніха на чыгуначную станцыю. Пазней ўсё сваё жыццё яна пражыла самотна: кіравала гаспадаркай, займалася дабрачыннасцю, за што мясцовы люд называў яе святою. Ядвіга вяла спартанскі лад жыцця, купалася ад ранняй вясны, да позняй восені, любіла ездзіць верхам на кані.

Жонка Іосіфа Марыя з роду Кавальскіх, пасля смерці мужа ў 1914 г., атрымала ў спадчыну толькі маёнтак Сурмачова. Яна была вельмі адукаванай жанчынай, вучылася ў Рызе, потым у Швейцарыі. Вядучы гаспадарку пасля смерці мужа, Марыя ніколі не шкадавала грошай, каб дапамагчы мясцовым сялянам, калі ў іх здаралася якое-небудзь няшчасце. Памерла яна ў 1937 г., пакінуўшы Сурмачова не сваім дзецям і ўнукам, а адстаўному ротмістру Палікарпу Праскурыну. Пахаванне Марыі адбылося вельмі ўрачыста, мясцовыя жыхары і праз дзесяткі гадоў успаміналі гэту падзею. Ад Сурмачова да Ідолта 12 кіламетраў, усю гэтую дарогу незлічоны натоўп вяскоўцаў ішоў пехатою за труной і маліўся разам з ксяндзом Казімірам Смулькай. Усю дарогу спяваў малітоўныя спевы хор вясковых дзяўчат. Труна патанала ў вянках з дубовых лістоў і шматлікіх кветак: ружаў, юргіняў, мальваў і г.д. Сяляне навакольных вёсак сустракалі працэсію з запаленымі свечкамі і абразамі Маці Божай Вастрабрамскай ўздоўж усёй дарогі. Гэта сведчыла аб застаўшыхся здаўна пашаны да роду Мілашаў. За 1 кіламетр да Ідолта сустракаў працэсію другі ксёндз Эліяш разам з жыхарамі Мілашова, Павяцця, Рыбачкоў і іншых вёсак. Аб'яднаўшыся два ксяндзы і тлумы люду накіраваліся ў капліцу, дзе пасля жалобнай імшы нябожчыца і была пахавана пад гукі шапэнаўскага вальса, у скляпеннях касцёла, дзе ўжо знайшлі свой вечны спачын большасць сям'і Мілашаў.

Яе дзеці Адам і Эмілія застаўшыся без маёмасці пражылі ўсё жыццё ў Варшаве, дзе і памерлі пасля другой сусветнай вайны. Дачка Яўгенія, якая гаспадарыла ў маёнтку Маркі, была вывезена ў 1940 годзе ў Сібір.

Прайшло ўсяго з дзесятак гадоў і новае пакаленне, якое вырасла ўжо на атэізме, разрабавала пахаванні. Капліца стала служыць складам для ўгнаенняў. Апавядаюць, што з чарапамі нябожчыкаў нават гулялі ў хакей на возеры. Праўда, Бог не пакінуў гэту знявагу без пакарання. У тым жа годзе галоўны завадатар–рабаўнік патануў на гэтым жа месцы, дзе гуляў, а другі разбіўся на матацыкле. У 1990 г. капліца была вернута вернікам, якія разам з пробашчам Антоніем Ласём яе аднавілі. А вось лёс іншай архітэктурнай спадчыны Мілашаў выклікае трывогу. Мясцовае УП "Мёрскі" не ў стане захаваць гаспадарчыя пабудовы, сядзібны дом прыходзіць у аварыйны стан. Патрэбны тэрміновыя меры, каб захаваць гэты цікавейшы для турыстаў куточак Мёршчыны.

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *






*Ураджэнцам Браслаўшчыны з'яўляецца вядомы навуковец, вынаходнік, аўтар падручнікаў Вячаслаў Віктаравіч Маслоўскі.*

*Вячаслаў Маслоўскі нарадзіўся ў 1932 г. у в.Ахрэмаўцы ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў мясцовай школе, а потым у Браслаўскай сярэдняй школе. У 1951 г. быў прызваны ў армію. Служыў на Паўночным флоце, дзе стаў афіцэрам. Мае вайсковае званне капітана III ранга запаса. Пасля скарачэнняў на флоце ў 1955 г. апынуўся ў Харкаве. Тут працаваў і вучыўся. У 1960 г. закончыў політэхнічны інстытут, у 1970 г. аспірантуру Харкаўскага інстытута радыёэлектронікі. З 1971 г. кандыдат тэхнічных навук, дацэнт в 1981 г. В.Маслоўскі з'яўляецца аўтарам звыш 130 навуковых прац, вынаходніцтваў, кніг, артыкулаў. Некаторыя працы земляка перакладзены на замежныя мовы.*

*Сярод важнейшых дасягненняў В.Маслоўскага – падрыхтоўка падручніка "Доводочные и притирочные работы", выдадзенага маскоўскім выдавецтвам "Высшая школа" у 1966 г. і падручніка "Полирование металлов и сплавов" (сумесна з П.Дудко), выдадзеным тым жа выдавецтвам у 1974 г. і некаторых іншых кніг.*

*Прапануем увазе чытача вершы беларускага дзеяча і паэта Міколы Дварэцкага, ураджэнца мястэчка Іказнь. Матэрыялы звязаныя з М.Дварэцкім ужо друкаваліся ў папярэдніх нумарах "Павета". У Польшчы, дзе пасля вайны жыў і памёр М.Дварэцкі, рыхтуецца да выдання зборнік яго вершаў. Выданне рыхтуе беларускае таварыства "Хатка" у Гданьску. Вершы ласкава даслаў у Браслаў брат паэта Язэп Дварэцкі з Калабжагу.*

## ІКАЖЭНСКАЕ ІГРЫШЧА

Каб ты ведаў мой сябрышча
Што ў Іказні відзіў я
У улан было ігрышча
Ды якое? Ай, ай, я!

Вот ігрышча, дык ігрышча
Лепш такога і не знаць
Было нават і скрыпішча
Ды ніхто ня ўмеў іграць.

А за тое наш Валодзька
У цымбалы моцна б'е
А канцовы Катарынчык
У клярнэцік паддуе.

Клярнэт сьпеўным пералівам
Гармонь хочыць заглушыць
Тады Флёрка забаяўець
Ажно шыба задрыжыць.

Музыканты смагла граюць
У вокны, у дзьверы тон плывець
А уланы вальца валяць
Хлопцаў нашых злосьць бярэць.

Чаму-ж нашыя дзяўчаты
Да уланаў ліпнуць так
Лепш пашлі ўжо да хаты
Чым таўчы тут з імі мак.

У дзяўчат насы ды шчокі
Пудрай зьбелены на сьнег
Шварном скручаныя лёкі
Тут усё разам, сьмех і грэх.

Мы праз вокны паглядаем
Ня пусьцілі-ж у хату нас
Дачакаць канца жадаем
Бо ўжо досыць позны час.

Пан харунжы па паўночы
Добра выпіўшы прышоў
Улан мусіць спаць у ночы
А тут вот што ён знайшоў.

Тут віноўніцы дзяўчаты
Пан сабе так меркаваў
Трэба выгнаць іх да хаты
І арапнік у рукі ўзяў.

Дзеўкі бачаць кепска будзе
Трэба хуценька ўцякаць
"Гвалт" – крычаць – "Ратуйце людзі!"
Хто-ж ратунак можа даць.

Пан харунжы біў з размаху
Моцна біў, ня шкадаваў
Ікажэнскае ігрышча
Так ганебна разагнаў.

Іказнь 1921 г.

## РУНЬ

Шоўкам зялёным рунь разляглася
Сярод іржэўнікаў шэрых палос
Сочна-бліскучая скрозь разраслася
Ад стройных асін да паніклівых лоз.

Вецер дуроннік пёркам гуляе
Хоча ўсю рунь як ваду схваляваць
Прамчыцца з падскокам вяршкі заплятае
То сіліцца ўверх іх раптоўна падняць.

У золаце сонечных кос за дарогай
Купаецца рунь на палёх цэлы дзень
І пёркам зялёным панікне з трывогай
Як ночы марознай набліжыцца цень.

Пойдзем на поле на рунь заглядацца
Адну яе толькі шкадуе мароз
Будзе на ветру сухі ліст бадзяцца
З сабой не бяры толькі сьмеху і сьлёз.

* * *

## ВЕЧАРАМ

Месяц плыве паміж хмар
Возера сонна плюшчыць
У паветры разсеяны чар
Хмелям салодкім п'яніць.

Такі сёньня вечар цудоўны
Хочацца жыць і кахаць
Глянь месяц з пад хмурак чароўны
Пачаў серабро разліваць.

А там далей зоркі гуляюць
Хаваюцца ў фалдах хмурынак
І месяцу ў твар заглядаюць
Як сотні дасьпеўшых малінак.

Здаецца ўсю ноч вандраваў-бы
Па вулках прыціхшых пустых
На месяца твар заглядаў-бы
З табой дарагая ў дваёх.

## РЫБАКІ

Кудлочыць вецер хвалі
А мы ўдваіх плывём
Туды дзе сонца ў далі
Гарыць сваім агнём.

На бераг набягае
Шумлівых хваль прыбой
І на пяску знікае
Іх рассьпяваны рой.

Хваль танец звадыяцкі
Зялёны гне сітнік
А наш прычал рыбацкі
Ў далі туменнай знік.

Яснее лес у далі
Там сонечны ўсход
І хоць гарцуюць хвалі
Плывём без перашкод

Матор працуе спраўна
Няма клапот з рулём
І мы да мейсца працы
Шчасліва даплывём.

1979 г.

* * *

## ЗІМА

Заснула возера. Па тонях
Ня чутна больш бурлівых хваль
Кусты аголены, на гонях
Іскрыцца сьнег, блішчыць як сталь.

Душа мая адпачывае
І вока цешыць белы сьнег,
А думка ластаўкай шыбае.
Што-ж затрымае яе бег?

Пад белай сьнежнай палатнінай
Заснуўшы бачу родны край.
Сплываюць дні працёртай калінай
А ў сэрцы радасьць – прыдзе май.

Аўтар гэтай кнігі ЦІМАФЕЙ АНТОНАВІЧ МІХАЙЛАЎ, нарадзіўся ў 1950 г. у в.Ігнатоўшчына каля Іказні. Ганаровы доктар Балтыйскага рускага інстытута г.Рыгі. аўтар шэрагу прац у галіне палітычных навук і сацыялогіі.





22-23 кастрычніка 2004 года ў польскім горадзе Торунь адбылася міжнародная канферэнцыя, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння Мар'яна Пецюкевіча, ураджэнца Браслаўшчыны, этнографа, фалькларыста.

Канферэнцыя адбылася ў этнаграфічным музеі Торуня, які разам з кафедрай міжнародных адносін універсітэта імя М.Каперніка былі яе арганізатарамі. З рэфератамі на ёй выступалі: прафесар Торуньскага ўніверсітэта, нараджэнец Браслаўшчыны Ст.Александровіч, доктар мастацтвазнаўства В.Лабачэўская (Мінск), супрацоўнікі музея А.Трапчык, Г.Музалеўская, доктар, даследчыца жыццядзейнасці М.Пецюкевіча А.Глагоўская, старэйшая дачка этнографа Міраслава Быблюк, навуковыя супрацоўнікі Браслаўскага музейнага аб"яднання Э.Зінкевіч і А.Панцялейка.

На канферэнцыі прысутнічала каля 100 чалавек. На наступны дзень удзельнікі і госці наведалі набажэнства ў памяць слыннага этнографа і пабывалі на месцы яго пахавання (на здымку).

Акрамя даследчыкаў, спецыялістаў, работнікаў музея ў працы канферэнцыі прымалі ўдзел родныя і знаёмыя Мар'яна Пецюкевіча.

У заключны дзень удзельнікі мерапрыемства агледзелі этнаграфічны комплекс – музей-скансен і азнаёміліся з матэрыяльнай культурай Цэнтральнай Польшчы.


Год I. Травень № 3.

Шлях Моладзі

..„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".
ЯНКА КУПАЛА.

ВІЛЬНЯ, 1929 г.

Тытульны ліст часопіса "Шлях моладзі" выдаваўся ў Вільні з 1929 г. Адзін з яго ствральнікаў і першы рэдактар – Мар'ян Пецюкевіч, наш зямляк, ураджэнец в.Цяцеркі.

## З часопіса «Шлях моладзі» (№3. 1929 г.)

***Опская гміна.*** *Браслаўскі пав. У нашай гміне сяляне па вёсках жывуць вельмі бедна, а найбольш даецца ў знакі бедната ў сёлетнім годзе, бо быў вялікі няўраджай. Вядома ўсім, што дзе бедната там і цемната, дык і ў нашых вёсках пануе цемната. Моладзь не арганізуецца ў свае родныя, беларускія арганізацыі і не чытае ані кніжак, ані газэт. Затое за астатні, цяжка зароблены грош, п'юць гарэлку. Гарэлка — вораг людзей, — гэта вядома ўсім, бо яна шкодзіць здароўю людзкому, марнуе апошні грош, а перадусім шкодзіць дружбе моладзі.*

*Маладыя хлопцы напіўшыся гарэлкі вельмі часта паб'юцца, ды пакрываюцца нажамі. Вось да чаго даводзіць гарэлка! Але дзякуй Богу, і да нас сюды, ўжо пачала пранікаць іскра беларускай сьведамасьці. Ёсьць ўжо і ў нас такія людзі, каторыя стараюцца направіць сваю гаротную долю.*

*Дык моладзь опскай гміны, пакінь піць гарэлку, а бярыся да карыснай працы, для сябе і Бацькаўшчыны-Беларусі.*

*Лявон Жалейка.*

Кніга нашага земляка "Абліччы браслаўцаў, якія вызначыліся ў гісторыі маленькай і вялікай Айчыны", ураджэнца Опсы **МІХАІЛА МІЛІНКЕВІЧА**, які жыве ў Варшаве, выйшла з друку ў 1998 г. на польскай мове. Кніга складаецца з біяграфічных нарысаў - дванаццаці гістарычных дзеячоў Браслаўшчыны. Большасць з іх – гэта нараджэнцы браслаўскай зямлі. Сярод іх: Кароль Вырвіч (1717-1793), вядомы ў свой час географ і гісторык, Томаш Ваўжэцкі (1754-1816), вядомы грамадскі і дзяржаўны дзеяч, адзін з кіраўнікоў паўстання 1794 г., Мамерт Станкевіч (1889-1938), марскі афіцэр, капітан карабля, Юзаф Буйноўскі (1910-2002), паэт, гісторык літаратуры, прафесар і іншыя.

Пры перадачы аднаго з экзэмпляраў кнігі ў Браслаўскі музей аўтар адзначыў, што ў загалоўку не выпадкова змешчана "Частка 1". Далёка не ўсе заслужаныя землякі ўганараваны ў кнізе. Патрэбны новыя пошукі і з часам абавязкова павінен з'явіцца працяг працы.




**ЭДВАРД ПЛАЧАК**, рэжысёр польскага радыё. Нарадзіўся ў Браслаўскім павеце ў 1929 г. Бацька Станіслаў быў агароднікам. У 1940 г. сям'ю вывезлі ў Казахстан. Там ён у г.Бураеве працаваў у тэатры. У Польшчы з 1951 г. працаваў у Тэатры польскага радыё. Сярод найбольш значных творчых дасягненняў Э.Плачака – інсцэніроўкі сусветна вядомых твораў, раманаў "Патоп" Г.Сенкевіча, "Ціхі Дон" М.Шолахава. Памёр у 1975 г. Звесткі пра Э.Плачака змешчаны ў Польскім біяграфічным слоўніку.



Наш зямляк **ПЁТР ВАСІЛЕЎСКІ** нарадзіўся ў 1904 г. у Браславе ў сям'і праваслаўнага святара Аляксея Васілеўскага (1876-1942). У другой палове 20-х гадоў вучыўся ў Пражскім універсітэце, дзе ў той час жыло шмат эмігрантаў з Расійскай імперыі. Спяваў у рускім студэнцкім хоры пад кіраўніцтвам А.Архангельскага, пазней спяваў у знакамітым хоры данскіх казакоў.З хорам гастраляваў па розных краінах свету. У музеі захоўваецца частка фотаархіва Васілеўскіх, перададзенага краязнаўцам з Даўгаўпілса Міколам Паўловічам. На фотаздымках П.Васілеўскі з калегамі па хору ў Галандыі, ЗША, Аўстрыі, Германіі, Алжыры, гарадах – Рыме, Афінах, каля Ніагарскага вадаспаду. Разам з Пятром у хоры пэўны час спяваў і яго брат Уладзімір. Далейшы лёс Пятра Васілеўскага невядомы. Паводле некаторых звестак ён трагічна загінуў у адной з афрыканскіх краінаў.



**П.Васілеўскі з калегамі ў Рыме**

**УЛАДЗІМІР ПЕЦЮКЕВІЧ**, беларускі паэт. Нарадзіўся ў 1943 г. у в.Цяцеркі. Пляменік вядомага беларускага этнографа Мар'яна Пецюкевіча. Друкуецца з 1975 г. Вершы змяшчаліся ў перыядычных выданнях, калектыўных зборніках "Лагодны прамень раніцы", "Браслаўшчына азёрная мая". На

### *БРАСЛАЎ*

*Чоўнам маёй вясны,*
*Хваляй празрыстых вод*
*Ты да мяне плывеш у сны,*
*Мой двойчы родны Браслаў.*
*Сонцам свяціў ты мне,*
*Яркай начной зарой,*
*Свеціш і сёння мне ў акне,*
*Мой горад, сонцам ясным.*

*Казка, паданне, быль,*
*Замкавы вал круты*
*Клічуць дамоў, дзе б я не быў,*
*У край мой ясназоры.*
*Люстры азёрнай шыр,*
*Чайкі світальнай крык.*
*Ласкавы спеў нясу ў душы:*
*Я зноў з табой, мой горад!*




Аўтар "Гісторыі мастацтваў" (Мінск.2003 г.) **БАРЫС АНДРЭЕВІЧ ЛАЗУКА** наш зямляк. Нарадзіўся 27 ліпеня 1955 г. у в.Рэпешчына (Друйскае наваколле). Беларускі мастацтвазнавец, кандыдат мастацтвазнаўства (1989 г.). Прарэктар і загадчык кафедры Беларускай Акадэміі мастацтваў, аўтар некалькіх кніг.

Пра гэтых землякоў мы хацелі б напісаць у чарговых сваіх выпусках:

**Мамерт Станкевіч** (1889-1939), капітан, публіцыст, аўтар апублікаваных успамінаў "З царскага флота да польскага" (Гдыня. 1995). Нарадзіўся ў Латвіі, але бацькі паходзяць з Браслаўшчыны.

**Станіслаў Капанскі** (1895-1976), інжынер, генерал дывізіі, начальнік штаба Польскіх узброеных сілаў на захадзе. Нарадзіўся ў Санкт-Пецярбурзе, але на Браслаўшчыне ў Мільках быў радавы маёнтак Капанскіх.

**Уладзіслаў Бейнар** (1868-1938), генерал, камандуючы І літоўска-беларускай дывізіі. Нарадзіўся ў маёнтку Камарышкі Браслаўскага павета.

**Ян Яцына** (1864-1930), вайсковец, аўтар успамінаў "Генерал-ад'ютант Пілсудскага і прэзідэнта Рэчыпаспалітай". Нарадзіўся ў Браславе.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адказны за выпуск: Кастусь Шыдлоўскі
г.Браслаў, вул.Кастрычніка 11-10, тэл. 21-4-28
E-mail: brasme@vitebsk.by

Над нумарам працавалі: Кастусь Шыдлоўскі, Аляксандр Панцялейка, Валеры Буко

Выдадзена пры дапамозе цэнтра выдавецкіх ініцыятыў «Сумежжа» (Паставы)